# наша свабода

№59(146) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

8 ЧЭРВЕНЯ 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Выбары прэзідэнта: адлік пайшоў

*9 верасня гэтага года адбудуцца прэзідэнцкія выбары. Рашэнне аб правядзенні выбараў прыняла ўчора Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі.*

Як паведамляе агенцтва РИА «Новости», у галасаванні па гэтым пытанні прынялі ўдзел 85 дэпутатаў з 93 прысутных. 74 з іх прагаласавалі «за» прыняцце пастановы, 11 – «супраць». Агенцтва БелаПАН даводзіць іншыя лічбы – у галасаванні бралі ўдзел 86 дэпутатаў, з якіх 12 былі «супраць».

Прынятая пастанова «Аб прызначэнні выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і аб арганізацыйных мерапрыемствах па забеспячэнні іх правядзення» даручае адпаведным органам улады забяспечыць правядзенне ўсяго комплексу мерапрыемстваў па арганізацыі выбараў прэзідэнта Беларусі.

Савету міністраў дэпутаты даручылі забяспечыць фінансаванне выдаткаў па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў, а таксама ўстанавіць парадак прадастаўлення дзяржаўнымі органамі неабходных памяшканняў, абсталявання, сродкаў сувязі і транспартных сродкаў.



Фота Ул ШЛАПАКА

Старшыня Цэнтарвыбаркаму Лідзія Ярмошына дачакалася адказнай працы

Паводле пастановы ПП НС, ад дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі патрабуецца забяспечыць правядзенне перадвыбарнай агітацыі. Міністэрства ўнутраных справаў заклікана забяспечыць грамадскі парадак у Беларусі пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў.

Наглядаць за выкананнем беларускага заканадаўства аб выбарах будзе Пракуратура Беларусі.

Пункт 10 пастановы прадастаўляе права дэпутатам Палаты прадстаўнікоў у межах іх паўнамоцтваў ажыццяўляць кантроль за ходам выканання гэтага дакумента.

Агенцтва БелаПАН паведамляе, што на разгляд дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў былі прадстаўленыя таксама тры альтэрнатыўныя праекты аб прызначэнні прэзідэнцкіх выбараў. Іхнімі аўтарамі з'яўляюцца дэпутаты Вольга Абрамава, Іван Пашкевіч і Генадзь Дылеўскі. Па словах старшыні пастаяннай камісіі па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраванні і рэгламенце Міхаіла Сасонкі, які адкаментаваў гэтыя праекты, варыянты В.Абрамавай і І.Пашкевіча, паводле многіх палажэнняў, супярэчаць дзеючаму заканадаўству Беларусі, і таму былі адхіленыя. Праект жа Г.Дылеўскага, як заявіў старшыня камісіі, з'яўляецца па сутнасці копіяй пастановы аб правядзенні выбараў, падрыхтаванай Цэнтральнай камісіяй па правядзенні выбараў і рэферэндумаў (Цэнтрвыбаркамам). Таму ніводны альтэрнатыўны праект не быў нават уключаны ў парадак дня.

Асабістае прадстаўленне аб магчымых адбыцца выбарах выказаў на паседжанні Палаты прадстаўнікоў дэпутат Раман Ананьеў. Па ягоных словах, выбары прэзідэнта сёлета – «гэта пустая трата грошай». У якасці сваёй альтэрнатывы Р.Ананьеў прапанаваў правесці рэферэндум і гэтым шляхам падоўжыць прэзідэнцкія паўнамоцтвы Аляксандра Лукашэнкі «яшчэ як мінімум на 7 гадоў».

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

# Г-н Лукашенко, где мой отец?

## *Открытое письмо Валерии Красовской*



Человек, именующий себя президентом Республики Беларусь. Я обращаюсь к вам.

Полтора года назад вы назвали себя виновником похищений известных людей. Юрия Захаренко. Виктора Гончара. Моего отца, Анатолия Красовского. Позже было похищение Дмитрия Завадского. «Больше не ищите виновных. Я несу за это ответственность в полном объеме» – так вы сказали тогда. Не пора ли подкрепить эти слова конкретными объяснениями?

Для Лукашенко, может быть, полтора года промелькнули незаметно. Ведь у президента много важных дел. Посевная, сбор урожая, увеличение надоя, разоблачение иностранных провокаторов и шпионов – сколько неотложных процессов требуют его внимания!

Жизнь детей, жен, матерей похищенных людей полнится иным. Каждый день бесконечное количество раз эти люди проходят путь от веры и надежды до мыслей о самом страшном, до отчаяния. Каждую секунду они ждут своих отцов, мужей, сыновей. Для них полтора года – это очень, очень долгий срок.

Мой отец – это человек достойный во всех отношениях. Справедливый, добрый, принципиальный – это о нем. Говорят ли подобные слова о Лукашенко? Говорят. Откровенные, сытые подхалимы, из которых вылеплена власть. Кто не имеет отношения к кормушке Лукашенко, отзывается о нем презрительно. В этом письме не будет оскорблений. В нем нет лжи. Это не мои методы – ваши.

Но я не упущу возможности сказать, что я ненавижу Лукашенко. Он – виновник того, что уже больше двадцати месяцев я не имею возможности видеть рядом с собой моего самого любимого человека. Более того, у нашей семьи нет НИКАКОЙ информации о его судьбе. За долгие месяцы не было ни единого слова надежды, ни одного намека, зацепки. Я не знаю, жив ли он.

Вам потребовалось ещё 5 лет президентства. Еще 5 лет ответственности за судьбу нации. Это очень много. Перед тем, как отхватить очередной срок власти, дайте ответ на уже заданные вопросы. Каким образом вы несете добровольно взятую на себя ответственность за судьбы пропавших людей? Где Юрий Захаренко, Виктор Гончар, Дмитрий Завадский? Где мой отец, Анатолий Красовский?

Валерия КРАСОВСКАЯ

### Каментар НАШАЙ СВАБОДЫ

На Валерыю Красоўскую таямнічае выкраданне бацькі абваліся, калі ёй было 17 гадоў, і ўжо два гады і ўдзень, і ўноч гэтая таямніца вісіць змрочным ценем над іхным домам. Калі б «знікненні» вядомых апазіцыянераў не набылі рэгулярны характар, нашае грамадства не даведалася б, што гэткую ж бяду ў нас зведалі сотні сем'яў. Неабходнасць хоць нешта ўголас адказаць на пытанне «Хто выкрадае нязгодных?», выклікала жахлівыя па змесце прызнанні чыноўнікаў.

**1.000** – такой неверагоднай лічбай акрэслена штогадовая страта тых грамадзянаў Беларусі, якія «знікаюць бясследна», гэта значыць выкрадаюцца з грамадскага, палітычнага, сямейнага, асабістага жыцця, а што робяць з імі выкрадальнікі – невядома. За апошнія гады гэтак агулам «знікла без вестак» **4.000 чалавек**. Можа болей – міліцэйская статыстыка па такіх злачынствах у нас не публікуецца.

Афіцыйныя каментатары дазвалялі сабе цынічна дзівавацца, чаго гэта апазіцыйныя рухі і партыі прычапіліся да «гучных» выкраданняў і знікненняў, калі яны літаральна кропля ў моры – 0,1% ад усіх, хто выйшоў з хаты і ўжо не вярнуўся. Падобна Юрыю Захаранку, Віктару Ганчару, Анатолю Красоўскаму, Дзмітрыю Завадскаму. Імёны астатніх ахвяраў вядомыя, можа, у райаддзелах міліцыі. З іх партрэтамі не выходзяць на вуліцы, не стаяць у пікетах. А калі б выйшлі, дык у беларускай сталіцы на чатыры кіламетры расцягнуўся б ланцуг няшчасных мацярок, бацькоў, дзяцей, братоў.

18 траўня ў цэнтры беларускай сталіцы, каля будынка, дзе праходзіў сход, міністр унутраных справаў Навумаў асабіста кіраваў нейкім аддзелам людзей у цывільным, якія выкручвалі рукі пікетчыкам, што патрабавалі праўды пра бясследна выкрадзеных. Што захоча адшукаць міністр, які не паважае чужое гора, пачуцці іншых людзей? І што гэта за «эскадрон» невядомых, якія нагла здзекваліся над людзьмі і законам?

Названая ўладамі лічба «зніклых» амаль **у 30 разоў перавышае лік ахвяраў Хатыні**. Там 146 чалавек былі забітыя карнікамі. А якія карнікі сёння выкрадаюць і «знікаюць» людзей?

4.000 бясследна страчаных – **гэта ў 10 разоў больш за колькасць беларускіх салдатаў, палеглых на вайне ў Афганістане**. Але ім пастаўлены помнік, іх бацькі і родныя маюць куды прыйсці пасумаваць. Сёння на «востраве слёз» трэба ставіць і памятную капліцу для малітваў за «зніклых без следу».

Калі масава знікаюць палітыкі, падазрэнні непазбежна кладуцца на ўладу. Сусветны вопыт сведчыць, што іншых вінаватых тут не знаходзіцца. Магчыма, ёсць спецыяльны «эскадрон», які «знікненні» здзяйсняе. Пакуль гэта не абвергнута, няма падставы думаць інакш. Наадварот, дачыненні афіцэра спецпадраздзялення «Алмаз» МУС Беларусі да таямніцы выкрадання Д.Завадскага прымушае думаць менавіта гэтак..

1.000 зніклых на год – гэта ў 20 разоў болей за лік ахвяраў трагедыі на Нямізе. Лукашэнка сказаў тады пра 53 рубцы на ягоным сэрцы. А вось маем яшчэ 1.000 рубцоў штогод – і сэрца добра пульсуе, і хоча яшчэ пяць гадоў пульсаваць у прэзідэнцкім крэсле.

«Дзе мой бацька?» – пытаюцца дзеці бясследна зніклых? Гэтая ўлада ім не адкажа ніколі.

### Савецкі метад

На Гомельшчыне створаныя інфармацыйныя групы, якія будуць даводзіць да насельніцтва сутнасць і эфектыўнасць праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны да 2005 года, што была прынятая на так званым Другім Усебеларускім народным сходзе 18 траўня, а таксама даклад А.Лукашэнкі «За моцную і квітнеючую Беларусь». Такія агітбрыгады для паездак у працоўныя калектывы і навучальныя ўстановы арганізаваныя пры раённых, гарадскіх і абласных выканкамах.

### Раздзяржаўленне інтэрнэта

У аб'яднанне «Белтэлекам» дзяржаўная манаполія на канал вонкавага выхаду ў інтэрнэт будзе адменена да 2003 года. А ў будучым чакаецца рэфармаванне, акцыяніраванне і частковая прыватызацыя самога «Белтэлекама».

### Мытныя трафеі

На суму 3 мільярды рублёў кантрабандных тавараў і каштоўнасцяў канфіскавана за травень гэтага года беларускімі мытнікамі. Гэта пераважна аўтатранспарт, цыгарэты, алкаголь, валюта, вырабы з каляровых металаў.

### Падпольная запраўка

4,5 тонаў бензіну канфіскавала міліцыя ў нелегальных гандляроў у Бабруйску. На падпольнай аўтазапраўцы выяўлена больш за дзве сотні бочак з палівам і помпы. Узбуджаная крымінальная справа па факце незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці.

### Канцэрт «Я нарадзіўся тут»

18 чэрвеня ў сталічным Доме афіцэраў адбудзецца, па словах арганізатараў, «вялікі канцэрт-фэстываль «Я нарадзіўся тут». Дарэчы, адна з кампазіцыяў аднайменнага альбома – затэкставаны словамі Сокалава-Воюша паланез Агінскага «Развітанне з Радзімай» – ужо 22 тыдні знаходзіцца на першым месцы хіт-парада «Радыё-Рокс».

### Вандалаў цягне на метал

Акт вандалізму ўчынены ў вёсцы Стар Лёзненскага раёна, што на Віцебшчыне. З мемарыяльнага комплексу памяці воінаў, загінуўшых падчас Другой сусветнай вайны, невядомыя зламыснікі скралі два дзесяткі плітаў. Вандалаў яны прывабілі тым, што ўяўляюць сабой сплаў каляровых металаў.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1400**

# Да выбараў засталося мала часу

*Учарашняе рашэнне «палаткі» сігналізавала аб пачатку другой прэзідэнцкай кампаніі. Ужо цяпер можна сказаць, што такога змагання за ўладу ў гісторыі сучаснай Беларусі яшчэ не было. Нездарма Беларускае тэлебачанне ўжо аднаго за адным «адстрэльвае» ў прамым эфіры і ў запісу магчымых канкурэнтаў Аляксандра Лукашэнкі.*

● «Пяцёрка» патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты ад апазіцыі

А колькасць канкурэнтаў расце. Па розных ацэнках, ад 10 да 15 чалавек на сённяшні дзень рэальна гатовыя пазмагацца за ўладу з цяперашнім кіраўніком Беларусі.

## Суворыя тэрміны

Старт перадвыбарнаму марафону дадзены, і ў патэнцыйных кандыдатаў засталося не так шмат часу.

Выбарчы кодэкс, паводле якога будуць праходзіць прэзідэнцкія выбары, вызначае некалькі базавых тэрмінаў, у якія кожнаму патэнцыйнаму кандыдату неабходна выконваць пэўныя працэдуры. Усе гэтыя тэрміны разлічваюцца ў днях да даты выбараў. У нашым выпадку – да 9 верасня. Такім чынам, ад сённяшняга дня да выбараў новага прэзідэнта застаецца 93 дні.

Тэрміны гэтыя вельмі суворыя. Не пазней, чым за 85 дзён да даты выбараў, асоба, якая збіраецца стаць кандыдатам у прэзідэнты, ужо мусіць прадставіць у Цэнтральную камісію па правядзенні выбараў і рэферэндумаў (Цэнтрвыбаркам) спіс чальцоў ягонай ініцыятыўнай групы разам з заявай аб рэгістрацыі групы. Такім чынам, да наступнай пятніцы, 15 чэрвеня, у кожнага патэнцыйнага кандыдата мусіць быць сфармаваная ініцыятыўная група.

На працягу наступных пяці дзён Цэнтрвыбаркам мусіць разгледзець заяву, зарэгістраваць ініцыятыўную групу, выдаць ёй удзельнікам пасведчанні і лісты для збору подпісаў у падтрымку асобы, якая збіраецца балатавацца на найвышэйшую дзяржаўную пасаду.

За 80 дзён да дня выбараў – атрымліваецца, з 21 чэрвеня – ініцыятыўныя групы мусяць хадзіць па хатах і збіраць подпісы грамадзянаў Беларусі ў падтрымку «свайго» кандыдата. Усяго трэба назбіраць не менш за 100.000 подпісаў. Кампанія па зборы подпісаў мусіць закончыцца за 50 дзён да выбараў – да 20 ліпеня. Пасля гэтага Цэнтрвыбаркам вывучае сапраўднасць подпісаў за вылучэнне кандыдатаў. У выпадку, калі камісія палічыць частку подпісаў несапраўднымі, то кандыдат можа быць незарэгістраваны.

Рэгістрацыя будзе праводзіцца з 5 па 15 жніўня, і толькі пасля гэтага афіцыйна пачнецца выбарчая кампанія.

На кожным з гэтых этапаў Цэнтрвыбаркам мае магчымасць «адсячы» непажаданых кандыдатаў, спаслаўшыся на парушэнне імі Выбарчага кодэкса. Магчымыя і рознага кшталту правакацыі.

## Пакуль 17... Спіс адкрыты

Пра жаданне балатавацца ў прэзідэнты абвясцілі самі (або нехта ад іхняга імя) 17 асобаў. Вось іхні спіс у алфавітным парадку: Сяргей Антончык, Сяргей Гайдукевіч, Уладзімір Ганчарык, Сямён Домаш, Павел Казлоўскі, Сяргей Калякін, Яўген Крыжаноўскі, Валерый Леванеўскі, Аляксандр Лукашэнка, Уладзімір Мацкевіч, Наталля Машэрава, Міхаіл Мясніковіч, Зянон Пазьняк, Леанід Сініцын, Міхаіл Чыгір, Аляксандр Ярашук і, нарэшце, віртуальны Х-кандыдат, прапанаваны выданнем «Белорусская деловая газета».

Відавочна, што далёка не ўсе з іх насамрэч дойдуць да «фіналу» прэзідэнцкай гонкі. Не ўсе нават не пачнуць.

Перш за ўсё, мы не верым у «віртуальнага кандыдата» ад «БДГ». Хутчэй за ўсё, гэты гамункулус так і застанецца ў прабірцы галоўнага рэдактара «БДГ» Пятра Марцава. Відавочна, што не будзе браць удзел у выбарчай кампаніі былы старшыня КДБ Уладзімір Мацкевіч – інакш бы не з'ехаў у Бялград беларускім амбасадарам. Не вельмі зразумела, навошта рызыкаваць сваёй высокай пасадай кіраўніку прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаілу Мясніковічу – калі ён стане ў апазіцыю да свайго патрона, то кампрамата на яго знойдзецца багата. Старшыня Рэспубліканскага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу Аляксандр Ярашук дагэтуль ясна не выказаў свайго памкнення балатавацца ў прэзідэнты. Зянон Пазьняк, калі і захоча стаць афіцыйным кандыдатам, то не здолее гэтага зрабіць, бо ўжо пяць гадоў жыве за мяжой...

Але спіс прэтэндэнтаў пакуль адкрыты. І не выключана, што да наступнай суботы мы пазнаем яшчэ колькі імёнаў, якія будуць прэтэндаваць на найвышэйшую пасаду. Пасля 15 чэрвеня нельга будзе стаць прэтэндэнтам – паводле Выбарчага кодэкса, Цэнтрвыбаркам не зможа зарэгістраваць ініцыятыўную групу і выдаць падпісныя лісты.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Позлащенные баррикады

Упорство, с каким Лукашенко уже который год неутомимо складывает шаткие стены белорусско-российского бюрократического союза, наводит на мысль, что этому образованию отводится в планах государственных ваятелей совсем не та роль, которая декларируется. В самом деле, союз двух государств с самого момента зарождения принес обоим партнерам колоссальные экономические убытки и политические издержки. Здесь можно вспомнить все таможенные и финансовые проблемы, которые находили свое разрешение только при полном подавлении интересов одной из сторон. Вспомним хотя бы потоки водки и спирта, беспошлинно переброшенные за годы «братской дружбы» с Беларуси на территорию России. Или перманентные скандалы с транзитом грузов по нашим дорогам. Или давайте вспомним, как в угоду российским интересам у нас росли до космических высот тарифы на растаможивание автомобилей. Самый свежий пример – скоропостижная гибель лукашенковской программы «Союзный телевизор».

Собственно говоря, этот фиктивный союз не разрешил ни одной из реальных проблем двух государств, но добавил массу других забот и неприятностей. Если оценивать его существование с точки зрения прокурорского работника, то это чистой воды «крыша» для неких тайных и противозаконных делишек. Действительно, зачем всеми силами поддерживать на плаву фирму, приносящую экономические убытки?

– Как же!, — возразят мне «ромуальдычи» из группы особо преданных славянофилов и белорусофобов. — А братское совокупление двух народов в Кремле в позах интеграции? А единение всех нищих славян вокруг идеи возрождения Великой России?

Этого не отнять. Пропагандистские, шовинистические, великодержавные возможности союзного мыльного проекта отработаны на двести процентов и еще работают, как дрожжи в бражке, с шумом и вонью. Но затевать всю эту бодягу только для пропаганды не имело никакого смысла. Во всяком случае, можно было вполне обойтись без «союзного парламента и правительства». Не такие уж важные шишки наши палатники, чтобы покупать их расположение столь дорогим и экзотическим способом —созданием для них союзной синекуры с ежемесячной зарплатой в две тысячи долларов. Такой публике достаточно дать одноразовую подачку или плюнуть пару раз в физиономию. Они и за нынешнюю зарплату готовы утверждать и подписывать все, о чем бы шеф ни попросил.

Конечно, очень чувствуется у этого союза некая неприличная в порядочном международном сообществе генеральная линия на «собирание земель исконно русских» и прочую ахинею, без которой некоторые наши восточные соседи жить не могут. Многие из них мечтают абсолютно всем у нас распоряжаться, даже если мы и против. В конце концов, можно провести «референдум» типа лукашенковского. Это их вечный шиз, местные причуды, провинциальная фишка, постоянный дурдом, особенность характера. Говоря нормальным языком – это курс на оккупацию Беларуси и Украины тихой сапой по старинке и по дешевке. По сурдинку о «вечной дружбе», «едином народе» и прочие «ля-ля-ля». Между тем, для оккупации необходимы еще некоторое время, средства и условия, которых пока нет. Очевидно, что в данном виде проект скорее отпугивает, чем привлекает самого потенциального участника – Украину, которая на примере Беларуси учится осторожности и осмотрительности. Маневры Кремля ведь ясно читаются на расстоянии. Он в этом союзе напоминает голого маньяка в женской бане, который старательно выдает себя за фикус. Короче, пока союз не в жилу.

А в это время союзную повозку уже понесло галопом по буеракам. Уже подписана уйма бумажек, выпито море водки, наговорены тонны пустых слов. Уже дошли до конкретики бюрократического аппарата. Лукашенко бредит союзом, а в глазах интеграторов стекленеют картины будущей совместной лепоты. И удивительное дело: идея союза постепенно собирает вокруг себя все политические отбросы обеих стран. Посмотрите сами, какая публика создает его! Обратите внимание, кто этот союз прославляет! Коммунисты, великорусские шовинисты и российские фашисты. Спросите, например, мнение об этом злокачественном образовании у Зюганова, Жириновского, Затулина, Баркашова или какого-нибудь Зимовского. Посмотрите, кто руководит этим союзом, кто должен войти в его основные органы. Подозреваемый в многомиллионном воровстве Павел Бородин, адвокаты нелегитимного правителя Лукашенко и спасители его от импичмента 1996 года Строев и Селезнев, мелкие деятели российской Думы и нашей палатки. Вот оно что: Владимир Путин старательно очищает свою территорию от мусора и рухляди, переставляя ее в душный интеграционный закоулок. Здесь вполне могут оказаться все одиозные проворовавшиеся губернаторы из российских глубинок, все обуянные жаждой власти политические объедки вкупе с белорусским балластом, вроде г-жи Машеровой или г-на Костяна.

И что же может получиться в результате? Баррикады, на которых соберутся все маргиналы, оппозиционные здравому смыслу и прогрессу. Они соберутся в Минске под предводительством своего мессии и Беларусь немедленно превратится в заповедник полного красно-коричневого идиотизма. Это образование станет оппозиционным нынешнему курсу российского президента, начнет призывать под свои знамена всех недовольных и обиженных, вовсю злоупотреблять политической демагогией, используя все возможности полицейского олигархического коммунизма, когда верхи живут при капитализме, а низы – при рабском социализме. Здесь могут неожиданно всплыть и капиталы КПСС, и украденные золотые запасы СССР, и все, что хотите. Самое интересное, что этот союз обязательно станет претендовать на самую верховную власть в двух государствах и выдвинет в качестве единственного претендента... Конечно же, Александра Григорьевича. Кого же еще? Или вы думали, что он уже вышел в тираж? Увы, его теперь трудно будет унять, есть где развернуться.

P.S. В Беларуси ныне все возможно. Будем надеяться, что Владимир Путин прикроет эту лавочку заблаговременно, не распаляя амбиций некоторых невоздержанных товарищей и не ссужая их деньгами на карманные расходы. А об экономическом союзе гораздо проще будет договориться с людьми, которые определенно знают, для чего им нужна государственная власть.

**Александр ДУБРАВИН**

ЗУБР

## Графіці ў Берасці

У Берасці з'явіліся першыя графіці на тэму маючых адбыцца ў верасні прэзідэнцкіх выбараў. У ноч з 29 на 30 траўня цэнтральныя вуліцы горада былі скрозь распісаныя заклікам «Час выбіраць!». На працягу 30 траўня-1 чэрвеня ўлады замалёўвалі надпісы, але 2 і 3 чэрвеня надпісы зноў з'явіліся не толькі на старых месцах, але і ў іншых ажыўленых участках Берасця: вул. Маскоўскай, Янкі Купалы, уздоўж чыгункі Брэст-Брэст-Паўднёвы. Таксама на вялізнай калькасці будынкаў, прыпынкаў, нават на машынах можна пабачыць новыя налепкі руху ЗУБР.

## Милиция в роли цензора

Милиция минского метрополитена обвинила активистов молодежного движения ЗУБР, распространяющих спецвыпуски НАШАЙ СВАБОДЫ, в нарушении статьи 172 ч.3 КоАП РБ «Распространение печатных изданий, изготовленных с нарушением установленного порядка и не имеющих выпускных данных, содержание которых направлено на причинение ущерба государственному и общественному порядку». Таким образом, сотрудники правоохранительных органов нарушили Конституцию Республики Беларусь и Закон о печати РБ.

Ретивых «служак» зацепила статья «За 7 лет Лукашенко продал оружия на 7 миллиардов долларов. Где деньги?», опубликованная в последнем спецвыпуске НАШАЙ СВАБОДЫ и в которой приводились сведения, данные представителем белорусского министерства обороны. В интервью Агентству военных новостей чиновник заявил, что Беларусь заработала около 1 миллиарда долларов, продавая оружие и военное оборудование с 1994 по 2000 год.

Задержав «зубров» вечером 5 июня, сотрудники милиции минского метрополитена заявили, что намерены дать ход административному делу за нарушение ст.172 ч.3. При этом сотрудники правоохранительных органов почему-то не учли, что тем самым они нарушают ст.33 Конституции Беларуси, которая гласит, что в Беларуси запрещена предварительная цензура средств массовой информации. Кроме того, подобные действия милиционеров являются прямым нарушением Закона о печати, который предоставляет право контроля за печатными изданиями только Государственному комитету печати. Поэтому никакой милиционер не имеет права заниматься цензурой средств массовой информации.

31 мая за распространение этих же газет милицией были задержаны 20 активистов ЗУБРа. Один из них был избит, у второго подошедший постовой порвал удостоверение внештатного корреспондента НАШАЙ СВАБОДЫ.

Несмотря на ожесточившиеся репрессии, «зубры» продолжают распространять спецвыпуск НАШАЙ СВАБОДЫ, на сей раз вышедший под общим заголовком «Так жить нельзя!» и посвященный бездарной экономической политике белорусских властей.

## Новая тактика ЗУБРа в Гомеле

Гомельские зубры последнее время используют тактику летучих пикетов. Активисты движения проходят по многолюдным местам города, в каждом из которых стоят по несколько минут. Это позволяет избежать задержаний. Кроме того, усиливается эффект от самой акции.

## Витебские зубры идут в театр

Активисты движения сопротивления ЗУБР раздавали в минувший вторник новый выпуск газеты НАША СВАБОДА в театре Витебска, а молодым людям дополнительно вручали газету «Зубр» во время показа полицейской комедии «Фредди». Зрители не протестовали против неожиданного добавления к программе. В антракте театр напоминал дискуссионный клуб – все обсуждали будущие президентские выборы.

## Слонімскія ўлады загадзя выносяць прысуд

Выканаўчая камісія пры Слонімскім гарвыканкаме 30 траўня прысудзіла 25 тысяч штрафу аднаму з актывістаў руху ЗУБР. Хлопец распаўсюджваў газеты «ЗУБР». Прысуд быў вынесены па арт. 172 частка 3 КаАП РБ – за распаўсюд літаратуры без выходных дадзеных. Трэба зазначыць, што пастанова аб уплаце штрафу была датаваная 16 траўня. Гэта значыць, што ўжо тады ўсё было вырашана, а 30 траўня адбылся звычайны судовы спектакль.

## ЗУБР гуляет по Витебску

Витебские Зубры провели в выходные свою акцию. Около сотни молодых людей прошли через центр города, обошли несколько мест традиционного сбора молодежи, вокзал и вернулись в центр, где разошлись.

ЧАС ВЫБІРАЦЬ!

або

# Прадчуванне вандалізму ў рамантычным парку

## *Досыць верагодна, што Лошыца знаходзіцца пад пагрозай згубы аўтэнтычнасці*

*Лёс амаль ушчэнт занядбанага ў 20-ым стагоддзі старажытнага Лошыцкага сядзібна-паркавага комплексу, што месціцца на ўскраіне сталіцы, напачатку новага стагоддзя стаў яшчэ больш турботным. Найвялікшы непакой спараджае стан тамтэйшага сядзібнага будынка і паводзіны ягоных новых гаспадароў.*



Фота Ул. ШЛАПАКА

Нездарма архітэктары і музейшчыкі наўпрост звязваюць свае апаскі з тым, што Лошыцкі маёнтак забралі ад сістэмы міністэрства культуры і перавялі ў камунальную ўласнасць горада Мінска, а дакладней, на баланс унітарнага арэнднага прадпрыемства «Мінскзялёнбуда». Спраўна-бюракратычная працэдура па гэтай перадачы нядаўна была завершаная, і сталічны гарвыканкам ужо пачаў там уладарыць. З перадачай «Мінскзялёнбуду» сядзібнага дома ўвесь Лошыцкі сядзібна-паркавы комплекс апынуўся ў ягонай уласнасці. «Мінскзялёнбуд» даўно валодаў цэнтральнай часткай парку – 7 гектарамі з флігелем, а з мінулага года прыдбаў яшчэ і нібыта нічыйныя, а калісьці належаўшыя саўгасу «Лошыца» абшары плошчай 90 гектараў з абалонай ракі і садам.

Нагадаем, што такое перакіданне Лошыцы з рук у рукі было вытлумачанае тым, што мінкульт з-за недахопу сродкаў не можа ўтрымліваць, а тым больш, што даўно наспела, правесці належную рэстаўрацыю сядзібнага дома. Лошыца мела статус аднаго з дзевяці філіялаў Нацыянальнага мастацкага музея, і, як кажа галоўны спецыяліст аддзела музеяў і выставаў міністэрства культуры Сяргей Вечар, з тых сумаў, якія агулам выдаткоўваліся гэтаму музею, Лошыцы «траплялі капейчыны». Дарэчы, іншым філіялам таксама, бо прыярытэтнымі ў фінансавым плане лічацца рэстаўрацыя Мірскага замка і ўзвядзенне прыбудовы да ўласна будынка Нацыянальнага мастацкага музея. На рэстаўрацыю Лошыцкай сядзібы трэба пад мільён долараў. Апошні больш-менш грунтоўны рамонт праводзіўся тут падчас вайны гауляйтэрам Кубэ. Будынак драўляны і даўно струхнелы. Абвальваецца тынкоўка, згніла кроква. Знаходзіцца ў пэўных частках маёнтка нават небяспечна для жыцця. Так што працы тут непачаты край. Што да рэстаўрацыйных работ, якія вяліся тут цягам прыкладна дзесяці гадоў з горам напалам, то пакуль што цалкам зроблены толькі нулявы цыкл (камунікацыі). Хоць па ранейшым плане рэстаўрацыі яна мусіла быць цалкам завершаная яшчэ ў 1995 годзе.

Прыбіраючы Лошыцу з музейнай сеткі міністэрства культуры, меркавалася, што неабходныя грошы на ейнае ўтрыманне і добраўпарадкаванне знойдуцца ў больш багатага Мінгарвыканкама. Можа яно і слушна, але самае цікавае і галоўнае пытанне – што будзе з Лошыцкай сядзібай, пазбаўленай статусу філіяла Нацыянальнага мастацкага музея? У міністэрстве культуры турбуюцца, як бы рэстаўрацыя гэтага будынка не ператварылася ў рэканструкцыю альбо такі капітальны рамонт, у выніку чаго Лошыца па сутнасці перастане быць помнікам архітэктуры. Ва ўнісон тут і думка колішняга дырэктара Лошыцкага сядзібнага будынка, а цяпер намесніка Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі Юрыя Галаўко. Ён кажа, што «аддаваць такі помнік архітэктуры, як Лошыца, неспецыялістам, установе, далёкай ад культуры, гэта дзіўна». З ягоных словаў, «Мінскзялёнбуд» – гэта ж па сутнасці проста прыбіральшчыкі горада. Ю.Галаўко баіцца, што там схіляюцца да таго, каб якраз-такі замяніць рэканструкцыю на капітальны рамонт, тым больш, што такім чынам сама проста разабрацца з праблемамі Лошыцкай сядзібы. Рэстаўрацыя – куды больш складаная і дарагая справа. У прыватнасці, у «Мінскзялёнбудзе» могуць пайсці на знос драўлянай часткі маёнтка (гэта тры чвэрці ад усяго будынка, прычым самыя каштоўныя: ад роспісаў на сценах да старых печак), а на месцы разбуранага ўзвесці копію. Нейкіх канкрэтных і яўных дзеянняў пакуль не робіцца. Аднак калі ёсць некатарае прадчуванне і хоць бы ўскосныя факты пагражаючага вандалізму ў Лошыцы, то варта пра іх гаварыць. Прынамсі, у якасці прэвентыўнага захаду. Не давядзі Бог, калі там з'явіцца які экскаватар з «бабай», бо тады можа быць і позна крычаць «ратуйце!».

Юрый Галаўко даводзіць, што насцярожвае не толькі тое, што Лошыцкая сядзіба апынулася ў гаспадарцы некампетэнтнай арганізацыі. Зараз ані з ім, ані з міністэрствам культуры, абазнанымі ў сітуацыі, не вядзецца аніякіх кансультацыяў наконт магчымай рэстаўрацыі. Да ўсяго няма нават яе новага праекта, а ранейшыя не падыходзяць, бо састарэлі.

Супрацоўнікі аддзела эксплуатацыі і капітальнага рамонту «Мінскзялёнбуда» ў сваю чаргу кажуць, што спадзяюцца, каб не нарабіць памылак, на нагляд з боку Дзяржаўнай інспекцыі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны. Аднак вядома, колькі ўсяго благога ўчынена ў старажытнай частцы Мінска менавіта з благаслаўлення гэтага самага кантрольнага органа. Тут таксама даводзяць, што не выключана, што па сканчэнні рэстаўрацыйных работ сядзіба будзе вернутая да падпарадкавання міністэрства культуры.

Аднак паўстае пытанне, навошта было мяняць тады для Лошыцы гаспадара? Паколькі комплекс знаходзіцца ў межах горада, Мінгарвыканкам мог проста дапамагаць фінансаваць работы па лошыцкай рэстаўрацыі. Колішні дырэктар тамтэйшай сядзібы кажа, што спадзяваўся менавіта на такі варыянт выратавання маёнтка. І не толькі яго, бо наогул у сядзібна-паркавым комплексе ёсць шэраг іншых помнікаў архітэктуры, хоць яны, у адрозненне ад сядзібы, і не маюць адмысловага дзяржаўнага статусу. Гэта, напрыклад, флігель, капліца, млын і іншыя збудаванні. Такім чынам, усё выглядае дужа падазрона, і ў горада была, ёсць ці з'явілася нядаўна немалая спакуса выкарыстоўваць Лошыцкую сядзібу з цягам часу не толькі «ў якасці музея», як тое прадпісвала рашэнне Савета міністраў аб перадачы яе «Мінскзялёнбуду». Праўда, аўтарка прынятай зусім нядаўна агульнай канцэпцыі аднаўлення Лошыцкага сядзібна-паркавага комплексу Людміла Луцэвіч «Мінскзялёнбуду» абсалютна давярае і ўпэўненая, што ў Лошыцы зробяць так, як прадугледжвае канцэпцыя – музейна-рэкрэацыйная зона. Але пры гэтым яна кажа, што гэта мае быць «жывы музей», некаторыя аб'екты якога б працавалі і самаакупляліся. А гэта і гатэльчык, і кавярні, і што-небудзь іншае. Як тут не згадаць пра чуткі, што Мінгарвыканкаму дужа заманілася зрабіць у Лошыцы ці то рэзідэнцыю, ці то Дом адпачынку. Л.Луцэвіч непакою, што рэстаўрацыю перабываючага «ў аварыйным стане» сядзібнага будынка ператвораць у рэканструкцыю, не падзяляе. Што да іншых аб'ектаў – таксама. Адзінае што, напрыклад, млын можа быць проста законсерваваны. Дарэчы, яго плануецца запусціць у працу, гэта значыць, выпякаць там адмысловы лошыцкі хлеб. На ўзор Дудутак. А вось будынак колішняй карчмы з вуліцы Чыжэўскіх функцыянуючай карчмой ужо не стане, ён знаходзіцца ў прыватнай уласнасці.

Ёсць толькі агульная канцэпцыя рэанімацыі Лошыцы. Аднак пры гэтым няма асобных праектаў па аднаўленні таго ці іншага аб'екта, таму іх рэстаўрацыйная перспектыва цьмяная, у тым ліку і сядзібы. Тым часам Лошыца ўжо зараз нясе страты – высякаюцца цэлыя алеі дрэваў. Праўда, такія страты збольшага вымушаныя: сюды пракладваюцца водаправодныя, тэлефонныя і электрасеткі.

Файна, што Лошыца перастане быць ва ўяўленні менчукоў брудным і закінутым паркам. Каб толькі доўгачаканае аднаўленне не абярнулася згубай яшчэ аднаго помніка культуры менавіта як помніка, якіх і так засталося ў Мінску дужа мала.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Зверюги, или усыпление по-белорусски

*Есть в столице Республики Беларусь служба, именуемая в народе живодерской. Это «Спецавтохозяйство» по адресу: Велосипедный пер., 26.*

В каждый район города ежедневно выезжает машина на отлов бездомных животных.

По всем существующим правилам и постановлениям Мингорисполкома отловленные животные должны в течение пяти дней не уничтожаться, а выдерживаться в вольерах или помещениях до прихода за ними хозяина, ведь среди них большая часть потерявшихся.

Наивные жители, привыкшие доверять своей власти, считают, что, одев на собаку ошейник и жетон регистрации, их любимец становится неуязвим. Три года назад, вводя налог на собак и призывая граждан зарегистрировать своих животных, именно на ошейник с номером делался упор: номерной знак должен был поиск хозяина сделать недолгим.

Знаменитое «Спецавтохозяйство» на Велосипедном имеет и свой спецконтингент работающих. Непросыхающие от алкоголя красномордые «специалисты» с удавками и баграми исправно несут свою службу. Забой ведется тут же в машине. Истошные вопли убиваемых лишь поддают жару садистам. И хотя их начальники во всех заявлениях публично лгут, что породистых собак не отлавливают, постоянная безнаказанность исполнителей разрешает игнорировать любые правила.

Люди, случайно оказавшиеся свидетелями жестоких расправ, иногда пытаются выручить незадачливых собак-путешественников. Тщетно призывать проходящую мимо милицию. Для них дано указание невмешательства и даже содействия службе отлова. Круглик Т.М., живущая по улице Тимошенко, бросилась отбивать щенка эрделя, но была остановлена милицией, что раз она не знает клички, собака не ее. Журналистам городские власти расскажут, что животных усыпляют в машине. Уловив полное незнание вопроса, скромно добавят: аммиаком. Да, в машине действительно «усыпляют» тех, кто, по мнению усыпителей, может очнуться после ударов по голове: больших и сильных собак. Усыпление аммиаком, запрещенным везде, кроме нашей территории, вызывает мучительную смерть: у животного идет носом кровь, глаза вылазят из орбит, наступает удушение.



Фота Ул. ШЛАПАКА

Бытующее мнение у населения об усыплении как о гуманном конце для старого и безнадежно больного животного, основано на полном отсутствии информации на эту тему. И когда седая бабуля спрашивает в своей лечебнице, куда ей отнесли своего старого кота, чтоб тихо умер от «укольчика», ее отсылают на улицу Семенова, где ежедневная живодерка принимает животных от ничего не подозревающих граждан, слепо верящих, что их Мурки и Альмы умрут без боли.

Первичная практика оплаты за каждую особь делает службу отлова безжалостной ко всему, у кого четыре лапы вместо ног.

А уж если очень дотошный корреспондент поинтересуется, где же хоронят безвинные души наших друзей, ему назовут деревню Дегтяревку как место утилизации, и это будет очередная ложь: более трех лет машины туда не ходят и хоронить там негде, все колодцы давно заполнены и новых никто не делал.

Усиленно скрываемая информация, куда же деваются трупы собак и котов, дает возможность предполагать, что красивый собачий мех, чьими шапками и шубами торгуют на всех рынках Минска, служит верно и после смерти его хозяина.

Дорогие сограждане, кухонное возмущение никому из нас не поможет. Пишите чиновнику. Звоните. Жалуйтесь. Требуйте. И ничему не верьте: укол по-белорусски – это очень мучительная смерть!

**Маргарита ПУШКЕВИЧ**

**ЭКАЛОГІЯ**

## Экаадукацыя для кожнага

Новы міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Лявон Харужык сустрэўся з журналістамі і распавёў аб новай стратэгіі працы ўсяго міністэрства. Цяпер галоўная ўвага будзе надавацца падвышэнню экалагічнай пісьменнасці насельніцтва і як мага поўнаму інфармаванню па экалагічных праблемах.

Кожны з супрацоўнікаў міністэрства павінен 30% свайго працоўнага часу аддаваць на экалагічную асвету і адукацыю грамадзянаў, а ў школах для навучання будзе ўведзеная новая дысцыпліна па экалагічнай адукацыі і выхаванні.

Такія захады абумовіла наспяванне шматлікіх экалагічных праблемаў. Штогод расце забруджванне навакolля, асабліва вакол лецішчаў і сельскіх населеных пунктаў, а пераапрацоўваць бытавыя адходы няма магчымасцяў. Два смеццеперапрацоўчыя заводы ў Мінску і Магілёве, якія і так маглі ахапіць толькі 5% смецця, зараз наогул не працуюць, а ў Барысаве такі завод толькі будуецца.

У прамысловасці колькасць адходаў сягае штогод 23 мільёнаў тонаў, з іх 140 тысяч тонаў – адходы павышанай небяспечнасці. Усе яны згрувашчваюцца на тэрыторыях прадпрыемстваў.

**Алена ЛАБАНАВА**

## Не вучы начальніка – не даруе

У газеце «Пагоня» ад 19 красавіка 2001 года быў апублікаваны артыкул «Ідзе вялікая чарнобыльская вайна» з важнай інфармацыяй аб наступствах Чарнобыльскай трагедыі на Беларусі.

Старшыня Ляхавіцкай раённай Рады КХП-БНФ Ігар Лобан палічыў, што гэтую інфармацыю павінна ведаць «вертыкаль», каб кіраваць сваю працу на змяншэнне наступстваў. Ён перадрукаваў артыкул на аркуш А4 і занёс яго старшыні Ляхавіцкага райвыканкама А.Сакуну і старшыні Ляхавіцкага райсавету В.Сапуну. Аднак замест падзякі галоўны вертыкальшчык раёна палічыў, што І.Ф.Лобан распаўсюдзіў друкаванае выданне, выраблене з парушэннем вызначанага парадку, змест якога накіраваны на нанясенне шкоды дзяржаўнаму і грамадскаму парадку. Інфармацыя была перададзеная ў Ляхавіцкі РАУ.

7 траўня Лобана выклікалі туды і склалі на яго пратакол аб адміністратыўным парушэнні. А 12 траўня адміністратыўная камісія пры Ляхавіцкім райвыканкаме прызнала Лобана вінаватым і аштрафавала на 5.700 рублёў.

Такім чынам, прапанова прачытаць артыкул каштавала клапатліваму мінімальнага заробку.

**Уладзімір МАЛЕЙ**

## Кантрабандыстам не пашанцавала

Супрацоўнікі Брэсцкай мытні прадухілілі вываз за мяжу царкоўных рэчаў на суму 9 мільёнаў рублёў — гэта самае буйное затрыманне культавых каштоўнасцяў на Брэсцкай мытні за апошнія пяць гадоў.

Як паведаміў БелаПАН намеснік начальніка мытні Мікалай Ігнацэвіч, 5 чэрвеня ў цягніку № 13, які сьледаваў з Масквы ў Берлін, падчас дагляду ў тайніку было знойдзена 106 твораў рэлігійнага культу: 29 іконаў, 37 абразкоў, 21 складаны абраз, 19 крыжоў. Усе яны ўяўляюць сабою медныя ліццё. Гаспадар кантрабанды не аб'явіўся і прадметы былі канфіскаваныя. У хуткім часе яны будуць перададзеныя ў музеі і храмы.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## Канфіскавалі расійскае піва

Упраўленне Дзяржаўнага камітэта фінансавых расследаванняў Беларусі па Магілёўскай вобласці правяло аперацыю па прадухіленні незаконнага гандлю падакцызнымі таварамі. Яе вынікам стала канфіскацыя партыі піва «Балтика».

Паводле папярэдняй інфармацыі, магілёўская фірма атрымала партыю піва расійскай вытворчасці без афармлення адпаведных дакументаў і выплаты падаткаў. У выніку супрацоўнікі праваахоўных органаў канфіскавалі піва на суму каля 6 мільёнаў беларускіх рублёў. Увесь тавар будзе рэалізаваны праз дзяржаўныя гандлёвыя кропкі, выручка ад продажу паступіць у бюджэт. У дачыненні да прадпрымальнікаў праводзіцца праверка.

**Віктар ЧАРТОВІЧ**

## Мільён бутэлек ужо выпілі

Закрытае акцыянернае таварыства «Мінскі завод вінаградных він» працуе менш за год, але ўжо сёння можа пахваліцца асартыментам з 30 найменняў вінаградных він. Тут табе і «Кагор», і «Савіньён», і «Мярло», і «Херэс». Вінны матэрыял для іх пастаўляе Малдова.

Кошт віна ў сярэднім — 1.800 рублёў бутэлька. Аб высокай якасці він гаворыць дыпломы міжнародный выставы «Віны і напоі-2001», якая праходзіла ў Мінску. Маладое прадпрыемства здолела выпусціць ужо мільён бутэлек віна. У бліжэйшых планах — разліваць італьянскія віны.

**Віталь СЯЛІЦКІ**

# NATO, страны Балтии, Россия

**Кристоф БЕРТРАМ, директор Берлинского Фонда науки и политики**

*Следующая встреча NATO на высшем уровне состоится в Праге зимой 2002 года – в том случае, если президент Буш не созовет своих союзников раньше. Но вопросы, на которые нужно дать ответ в ожидании этой встречи, ясны уже сейчас: каким странам предложат вступить в NATO (если такое предложение вообще кому-то будет сделано); когда состоится вступление новых членов в организацию?*

Все это не похоже на ситуацию 1997 года, когда в *NATO* вступали Польша, Венгрия и Чешская Республика. Тогда результат Мадридского саммита, на котором было одобрено их вступление, нельзя было определенно предсказать вплоть до самого конца.

Сегодня самый важный вопрос, стоящий перед *NATO*, заключается в том, принимать или не принимать страны Балтии – Эстонию, Латвию и Литву, – и если да, то сделать ли это сейчас или с некоторой отсрочкой. Отказ балтийским государствам или отсрочка их вступления будет рассматриваться как уступка России; решение же в их пользу Россия сочтет пощечиной для себя.

Независимо от того, какое решение примет *NATO*, смягчение отрицательных последствий, которые вызовет это решение, – будь то в России или в странах Балтии, – будет непростым делом. Поэтому неожиданное решение, наподобие того, как это было сделано в Мадриде, только ухудшит положение, поскольку для того, чтобы смягчить его вредные последствия, требуется тщательная подготовка, и если все будет отложено до встречи в Праге, это будет означать слишком большую потерю времени.

Некоторые члены *NATO* надеются вообще уйти от этих проблем за счет отсрочки. Почему, спрашивают они, не отложить расширение до тех пор, пока некоторые из государств, требующих приема в *NATO*, не станут членами Евросоюза, что, возможно, удовлетворит какие-то из их запросов в отношении безопасности? Однако отсрочка не является приемлемым с практической точки зрения вариантом по следующим причинам:

– Сама Россия сделала вопрос о членстве трех стран Балтии главным вопросом в повестке дня *NATO*. Много раз Москва громогласно заявляла о том, что первое расширение *NATO* на Восток должно быть и последним. Как утверждает Россия, вступление стран Балтии в *NATO* нанесло бы серьезный ущерб ее безопасности (под которой в данном случае следует понимать ее самолюбие). Однако из-за того, что эти протесты настолько сильны, нерешительность в отношении расширения *NATO* будет выглядеть как заискивание перед Путиным.

– Запад обещал продолжить расширение на Вашингтонском саммите в апреле 1999 года. Тогда главы государств-членов *NATO* приветствовали прогресс различных стран-кандидатов, с особым одобрением отзываясь о странах Балтии. Руководители *NATO* также обещали вернуться к вопросу о расширении не позднее 2002 года. Поэтому они не могут повторить эту же формулировку в Праге. Расширение Евросоюза требует времени, в то время как расширение *NATO* происходит относительно быстро. В качестве членов Евросоюза страны Балтии косвенно попали бы под защиту системы безопасности *NATO*, что, возможно, сделало бы их прямое членство в *NATO* необязательным. К сожалению, пройдут годы, прежде чем переговоры по членству в Европейском Союзе завершатся, и их результаты будут ратифицированы. Задержка до этого времени означает отсрочку, осуществленную другими средствами.

– В конце «холодной войны» *NATO* изменило свое определение, назвав себя системой обес-



печения стабильности для всего Евро-Атлантического сообщества, в которое входят и новые демократии Восточной Европы. Аргументы, утверждающие, что поскольку не существует прямой угрозы безопасности стран Балтии, то нет необходимости и в гаранте этой безопасности в лице *NATO*, идут вразрез с этим определением.

Ни предполагаемое членство в Европейском Союзе, ни сегодняшняя благоприятная в отношении безопасности ситуация не оправдывают отсрочки расширения *NATO*.

Если *NATO* скажет балтийским государствам «да», оно должно дать понять как Москве, так и трем странам Балтии, что расширение направлено на то, чтобы укрепить стабильность на западной границе России, а не на то, чтобы угрожать России. Чтобы продемонстрировать это как одной, так и другой стороне, военное присутствие *NATO* в балтийских государствах следует свести к минимуму. Кроме того, можно было бы открыто объявить о том, что, в конце концов, возможно вступление демократической России в *NATO*.

Если *NATO* даст отказ странам Балтии, ему нужно будет не допустить, чтобы Москва истолковала это решение как подтверждение того, что Эстония, Латвия и Литва остаются замкнутыми в сфере влияния России, и что поза «великой державы», занятая Россией, принесла свои плоды.

Следует убедить Россию в том, чтобы она подтвердила – открыто и официально – право балтийских государств самостоятельно выбирать себе союзников. С учетом того, как Москва настаивает на том, что никогда не согласится с подобным решением, это будет нелегко. Более того, если балтийским государствам будет отказано в членстве в *NATO*, их будет необходимо вновь заверить в том, что Запад окажет им реальную помощь, если их безопасность окажется под угрозой.

На следующей после Праги встрече на высшем уровне странам Балтии должно быть так или иначе предоставлено то, чего они, принимая во внимание их историю, могут с полным правом требовать: право быть частью стабильного союза.

**© Project Syndicate**

**СПОРТ**

# Вынік ёсць, гульні няма

*Унічыю, з аднолькавым лікам 1:1, завяршыліся ўсе тры матчы чарговага тура адборачнай групы №5 чэмпіянату свету па футболе. Пытанне аб пераможцы і зборнай, якая зойме другое месца і матчымасць аспрэчваць далей пуцёўку на паездку ў Карэю і Японію, пераносіцца на восень.*

| | Г | П | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Польшча | 7 | 5 | 2 | 0 | 16 – 6 | 17 |
| Беларусь | 7 | 3 | 3 | 1 | 8 – 7 | 12 |
| Украіна | 7 | 2 | 4 | 1 | 7 – 7 | 10 |
| Уэльс | 7 | 0 | 5 | 2 | 7 – 9 | 5 |
| Нарвегія | 7 | 0 | 4 | 3 | 5 – 8 | 4 |
| Арменія | 7 | 0 | 4 | 3 | 6 – 12 | 4 |

Толькі адзін дакладны, моцны ўдар па варотах гаспадароў – футбалістаў Нарвегіі — нанеслі за сустрэчу беларусы, але гэты прыгожы «стрэл» Валянціна Бялькевіча метраў з дваццаці аказаўся выніковым. Практычна ўвесь час на полі дамінавалі нарвежцы, якія мелі шмат галявых момантаў, але скарысталі толькі адзін (Джон Кэр'ю) напрыканцы гульні.

На працягу двух апошніх матчаў наша зборная дэманструе невыразны футбол, і калі гэта мае назву «шчыры», аўтарам і прапаведнікам якога ёсць Эдуард Малафееў, дык упэўнены, бальшыня аматараў футбола не вельмі разумее, што нам пакуль прапануе мэтр.

Крызіс жанра, які адбываецца ў нашай зборнай, відавочны. Не вырашаная праблема з нападаючымі, настрой гульні ўсёй каманды цалкам залежыць ад самаадчування «кіеўскай парачкі», адсутнічае «лаўка запасных», ёсць і трэнерскія памылкі ў выбары складу на паядынкі, існуе «сляпы» давер да гульцоў, якія па ўзроўні свайго майстэрства (прыкладам, Мілеўскі) не падыходзяць яшчэ да нацыянальнай зборнай ці, як сведчыць практыка, могуць падвесці (Тумiловiч) у самы адказны момант.




Фота М.ШОСТАКА

У атацы Міхаіл Якімовіч. Адзін у полі не воін

І усё ж турнірнае становішча, як ні дзіўна, нас пакуль задавальняе, хаця б таму, што галоўны сапернік – украінцы — таксама працяглы час знаходзіцца ў нялепшай форме і нібы спабернічаюць па якасці такой гульні, хаця, як вядома, іх настаўнік Валерый Лабаноўскі — прыхільнік прагматычнага футбола, чым прынцыпова адрозніваецца ад Малафеева.

Тры нічыя больш задаволілі лідэраў — спартсменаў Польшчы, якія не прайгралі на выездзе і практычна паклалі сабе ў кішэнь білеты на самалёт у Японію ці Карэю.

Беларускім футбалістам засталося згуляць матчы з асноўнымі канкурэнтамі, палякамі ды ўкраінцамі дома, самую апошнюю сустрэчу правядуць на Уэльсе. Як складзецца лёс усіх зборных у гэтай, бадай, самай непрадказальнай групе, прагназаваць цяжка.

Маладзёжная зборная краіны прайграла сваім аднагодкам з Нарвегіі з аглушальным лікам – 1:5 і адразу саступіла ім пазіцыю лідэра ў групе. Зараз адрыў складае тры ачкі.

Калі ў футбалістаў засталося яшчэ досыць адборачных матчаў, каб неяк выправіць становішча, дык у мужчынскай зборнай па ручным мячы застаўся толькі адзіны варыянт для змянення вельмі няўдалай сітуацыі, якая склалася для іх у серыі двухраундавых плэй-офаў з ісландцамі. Для ўдзелу ў наступным годзе ў швецкім чэмпіянаце Еўропы яны павінны ў бліжэйшую нядзелю не толькі перамагчы гаспадароў на іх пляцоўцы ў Рэйк'явіку, але зрабіць гэта з перавагай не менш, чым у сем мячоў. Менавіта такое адставанне маюць беларускія гандбалісты пасля правальнага матча дома – 23:30. Што можа супрацьпаставіць дружына Аляксандра Каршакевіча магутным астраўцянам, не зразумела, асноўным аргументам аптымісты абвяшчаюць экскурсы ў гісторыю, калі мінскі СКА пад кіраўніцтвам Спартака Міpановіча адыгрываў на сваёй пляцоўцы і больш вялікія «мінусы». Так, гэта было, але ў той час існаваў сапраўдны дух калектывізму. Больш за тое, каманда была цэласным арганізмам, і спартсмены бачыліся кожны дзень.

Не бачна, якія козыры засталіся ў калодзе галоўнага трэнера на гульню. Асноўны з іх – алімпійскі чэмпіён Міхаіл Якімовіч – выглядаў бы лепшым амаль ва ўсіх еўрапейскіх зборных, але ісландцы маюць сваіх Якімовічаў, прычым не менш за тры-чатыры. Але надзея паміра́е апошняй.

Баскетбалісты мужчынскай зборнай Беларусі правялі ў Тбілісі другі матч кваліфікацыйнага турніру першынства Еўропы-2003 супраць каманды Грузіі і саступілі з лікам 78:83. У нядзелю іх чакае паядынак на выездзе з балгарамі.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2006 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1716 Нумар падпісаны ў друк 7/06/2001 (15:00) Наклад – 9.580